# ЗВЯЗДА

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*



29 кастрычніка 1991 г. АЎТОРАК
№ 207 (21735)
Цана 20 кап.

**Да канца падпіскі засталося 3 дні. Выпісвайце штодзённую беларускамоўную газету!**

## Дзелавыя кантакты дзвюх рэспублік

МІНСК, 28. (БЕЛТА). Сёння ў сталіцы Рэспублікі Беларусь прыбыла ўрадавая дэлегацыя Рэспублікі Малдова. Яе мэта — падпісанне міжурадавага эканамічнага пагаднення, абмеркаванне пытанняў матэрыяльных рэсурсаў, прадуктаў харчавання, гандлю, лёгкай прамысловасці...

Раніцай 29 кастрычніка пачынаюцца афіцыяльныя перагаворы дэлегацый дзвюх рэспублік.

## На З'ездзе народных дэпутатаў РСФСР

**Прэзідэнт РСФСР Барыс Ельцын звярнуўся ўчора да З'езда народных дэпутатаў Расіі з просьбай прадаставіць яму дадатковыя паўнамоцтвы.**

«Улічваючы хуткія змены абстаноўкі ў ходзе рэформ, з'езд мог бы прадаставіць Прэзідэнту права самастойна ці з наступным зацвярджэннем Вярхоўным Саветам змяняць структуру вышэйшых органаў выканаўчай улады, вырашаць пытанні персанальнага саставу кіраўнікоў», — заявіў ён.

Барыс Ельцын падкрэсліў, што «абстаноўка патрабуе часова, на год, прапанаваць новую сістэму ўзаемадзеяння» паміж Вярхоўным Саветам рэспублікі, яго Прэзідыумам, урадам і Прэзідэнтам. «Упэўнены, гэта ў інтарэсах народа, якому няма справы да нашых працэдурных цяжкасцей і разыходжанняў, а патрэбны рашучыя, энергічныя, хуткія дзеянні», — сказаў ён.

Падтрымліваючы ў прынцыпе выбранне кіраўнікоў выканаўчай улады шляхам народных выбараў, Барыс Ельцын сказаў, што «сітуацыя сёння такая, што гэтая працэдура аказваецца занадта вялікай раскошай. Праводзіць магутныя выбарчыя кампаніі і адначасова глыбокія эканамічныя пераўтварэнні немагчыма», — падкрэсліў ён.

# Іграй, гармонік!



Ну, хто сказаў, што менш стала добрых гарманістаў, а ў горадзе, наогул, не засталося ніводнага? Тым, хто думае так, трэба было нядаўна прыйсці ў Палац культуры прафсаюзаў на свята «Мінскі гармонік-91». Прычым прыйсці за гадзіну да пачатку, таму што ў прызначаны час у зале свабодных месц ужо не было. Публіка сабралася пераважна сталага ўзросту, як-ніяк гармонік — гэта для іх успамін аб маладосці. Але былі сярод гледачоў і маладыя аматары музыкі, што яшчэ раз сведчыла: сапраўднае мастацтва пакарае ўсе ўзросты.

Праграма была пабудавана проста: кожны ўдзельнік выходзіў на сцэну з невялікім музычным нумарам або прыпеўкамі. Некалькі кампазіцый выканалі запрошаныя на свята фальклорны ансамбль «Рунь» тэхналагічнага інстытута імя Кірава, ансамблі «Гармонік» і «Церніца» Палаца культуры чыгуначнікаў.

Узрост самадзейных артыстаў — ад школьнага да пенсіённага. Доўга апладзіравалі гледачы юным гарманістам з Дома піянераў Заводскага раёна. Горача віталі і аднаго з самых сталых на сцэне — пенсіянера мінчаніна Сяргея Цімафеевіча Казака.

— Я жыву ў пяціпавярховым доме, — расказвае Сяргей Цімафеевіч, — і без перабольшання скажу, што пад мой гармонік спяваў кожны жыхар нашага двара. Увечары, калі збіраюцца на лавачцы суседзі, мы разам успамінаем старыя песні. Ахвотна іграю на сямейных святах у сваіх сяброў. Збіраю калекцыю, у якой ёсць баяны, акардэоны, гармонікі.

Вадзіцель аўтобуса Мікалай Кісель пакарыў залу сатырычнымі прыпеўкамі:

— А на гербе на саюзным
Панадзелалі бяды:
Усе снапы парасцягнулі
І разбегліся хто куды!

Пра свой гармонік пенсіянер Аркадзь Рыгоравіч Саламахін расказаў цікавую гісторыю. Зроблены вядомымі майстрамі шэсцьдзесят гадоў назад, інструмент суправаджае аматара ўсё жыццё.

Досыць было прыкладаў таго, што гармонік, як і раней, карыстаецца любоўю — як выканаўцаў, так і слухачоў.

НА ЗДЫМКАХ: удзельнік свята пенсіянер Сяргей Цімафеевіч КАЗАК; сярод гледачоў не было раўнадушных; выступае маладзёжны ансамбль «Рунь»:

**Я. ПЯСЕЦКІ.**



## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### НА МЫТНІ ЧАКАЮЦЦА «ПАСЛАБЛЕННІ»

**Увоз прадуктаў харчавання, тавараў для дзяцей і іншых прадметаў штодзённага попыту, магчыма, яшчэ да новага года будзе вызвалены ад усіх мытных пошлін і падаткаў на імпарт.**

Гэта пытанне абмяркоўвалася на апошнім пасяджэнні Камітэта па аператыўнаму кіраванню народнай гаспадаркай краіны і з'яўляецца праектам Указа Прэзідэнта СССР, які, як чакаецца, будзе падпісаны ў лістападзе.

У праект закладзены таксама новыя нормы вывазу савецкай і замежнай валюты грамадзянамі, якія выязджаюць за мяжу. Гэтыя нормы вызначаны ў суме 300 рублёў і 500 долараў.

### ПАДСАЛАДЗІЛІ

КРЫЧАЎ (**А. Балдоўскі**). Крычаўскія хлапчукі і дзяўчынкі ласуюцца марожаным гарадскога масларобнага завода. Там пачаў працаваць спецыялізаваны ўчастак, які абышоўся прадпрыемству больш чым у 50 тысяч рублёў.

Абсталяванне на ўчастку ўстаноўлена айчыннае. Яго абслугоўваюць усяго дзве работніцы — Любоў Булаўкіна і Валянціна Маханькова. За змену яны вырабляюць да 600 кілаграмаў «Пламбіра» і «Шакаладнага». Гэта значыць, што больш за пяць тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак маюць магчымасць штодзённа меці салодкі ласунак.

● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ ●

### ...І ТАДЫ БУДЗЕ ПОЗНА

**У шаснаццацігадовага Сяргея Мельнічэнкі з Калодзішчаў захворванне спіннога мозгу Руса-Леві. Звычайна хвароба перадаецца ў спадчыну. У гэтым жа выпадку бацькі абсалютна «чыстыя». Можа, тут злавесная роля Чарнобыля ці яшчэ што... Маці Сяргея, Ганна Мікалаеўна, вельмі сціплая жанчына, з болем у голасе гаворыць пра тое, што яшчэ зусім нядаўна Сяргей займаўся лёгкай атлетыкай, ездзіў на розныя спаборніцтвы, радаваўся жыццю.**

Цяпер гэта жыццё пад вялікай пагрозай. Патрэбна аперацыя за мяжой, якая ацэньваецца прыблізна ў 20—30 тысяч долараў. Калі будуць рублі, Знешэканомбанк абяцае хутка перавесці іх у валюту.

Хвароба прагрэсіруе. У Мінскім інстытуце неўралогіі прапанавалі Мельнічэнкам толькі ўмацоўваючы курс лячэння і папярэдзілі, што праз год хлопец можа зусім не падняцца, і тады будзе позна. Пакуль жа Сяргей, хоць і з цяжкасцю, ходзіць на заняткі ў сваё вучылішча будаўнікоў № 25. Трымаецца мужна. Дырэктар вучылішча дапамог напісаць пісьмы з просьбай аб дапамозе на розныя прадпрыемствы. На «Гарызонце» ўжо абяцаюць валюту.

Я разумею, што цяпер шмат развялося розных «пагарэльцаў», якія збіраюць больш на свае карыслівыя патрэбы. Але мушу з усёй адказнасцю запэўніць шаноўных чытачоў: гэта не той выпадак. І таму хачу, каб мая заметка стала зваротам да ўсіх неабыякавых да чужой вялікай бяды людзей і арганізацый. Дапамажыце, калі ласка, чым можаце.

Сяргею далі II групу інваліднасці і выпісалі пенсіённае пасведчанне: «Інвалід дзяцінства». Ганна Мікалаеўна сказала: «Вы разумееце, адна справа, калі ў дзіцяці з нараджэння хвароба нейкая, і зусім іншае, калі вось так, малады, здаровы, прыгожы хлопец на парозе смерці».

Ганна Мікалаеўна не ведае, як напісаць пра гэта свайму старэйшаму сыну ў армію.

Яму, Сяргею Мельнічэнку, вельмі не пашчасціла, здарылася тое, што, па сутнасці, можа здарыцца з кожным з нас.

**Рублёвы разліковы рахунак: Мінск, р/с 609025, 14800 400268, Ленінскі раён, Мінскбізнесбанк. Валютны рахунак будзе паведамлены ў нашай газеце пазней.**

**А. КОКТЫШ.**

### ЗАЙЗДРОСНАЕ ЖЫЦЦЁ

**Тыя, хто праязджае па дарозе Лунна—Гродна, не могуць не звярнуць увагі на арыгінальныя дамы-катэджы, якія выраслі на ўскраіне вёскі Квасаўкі. Тут працуе і конна-спартыўная школа. Калгасам выдзелены таксама 2 мільёны рублёў на будаўніцтва фізкультурна-аздараўленчага комплексу. Навокал — маляўнічыя месцы. Ну што ж, пазайздросцім мясцовай моладзі!**

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## АБ ДАКЛАДЗЕ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ЭКАНАМІЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць да ведама даклад Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Кебіча В. Ф. «Аб эканамічным становішчы ў рэспубліцы».

2. Даручыць камісіям Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь правесці аналіз ходу выканання Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь праграмы пераходу рэспублікі да рыначнай эканомікі і Дзяржаўнай праграмы Рэспублікі Беларусь па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва.

3. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь і з прыцягненнем навукова-даследчых устаноў арганізаваць дэталёвую экспертную ацэнку і ўсебаковы аналіз праектаў эканамічных пагадненняў і іншых дадаткаў да Дагавора аб эканамічным супольніцтве, маючы на ўвазе максімальнае забеспячэнне эканамічных інтарэсаў рэспублікі, і прадставіць заключэнне Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь у снежні 1991 года.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовым Саветам народных дэпутатаў ажыццявіць сістэму мер дзяржаўнай падтрымкі мнагадзетных сем'яў, асоб з нізкімі даходамі, пенсіянераў, інвалідаў і іншых сацыяльна неабароненых груп насельніцтва.

5. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь разгледзець крытычныя заўвагі і прапановы народных дэпутатаў, выказаныя ў камісіях і на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пры абмеркаванні гэтага пытання, распрацаваць план іх рэалізацыі і аб ходзе вырашэння пастаўленых пытанняў інфармаваць пастаянныя камісіі і народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

18 кастрычніка 1991 г.
г. Мінск.

## Беларусь—Літва: дажывём і да эканамічнага дагавора

Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 25 кастрычніка правяла прэс-канферэнцыю з выпадку прыняцця 24 кастрычніка ў Вільнюсе Дэкларацыі аб прынцыпах добрасуседскіх адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай. На пытанні журналістаў рэспубліканскіх, цэнтральных і расійскіх сродкаў масавай інфармацыі адказалі старшыня Камітэта па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях Вярхоўнага Савета Пётр Садоўскі і намеснік міністра замежных спраў Уладзімір Сянько.

Прысутным было паведамлена, што ў адпаведнасці з канстытуцыйным Законам аб дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь наш парламент спецыяльнай заявай «Аб прынцыпах знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь» пацвердзіў яе прыхільнасць да прынцыпаў статута ААН, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, Міжнароднага пакта аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах. На гэтых падставах і будзе будавацца знешняя палітыка нашай рэспублікі.

Адзін з першых крокаў у гэтым напрамку — устанаўленне дружалюбных адносін з бліжэйшым суседам Беларусі — Літвой. Абедзве дзяржавы абавязваюцца кіравацца ў двухбаковых адносінах прынцыпамі раўнапраўя, тэрытарыяльнай цэласнасці, неўмяшання ва ўнутраныя справы, узаемаразумення і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. Яны таксама маюць намер забяспечваць адпаведна літоўцам у Беларусі і беларусам у Літве правы і свабоды, роўныя правам і свабодам сваіх грамадзян.

Аднак, адзначылі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі, да эканамічнага дагавора паміж нашымі дзяржавамі справа не дайшла: да яго вядзе доўгі і няпросты шлях.

У сувязі з тым, што з лістапада Літва на ўсе тавары адпускае цэны, і яны там узрастуць прыкладна ў два-тры разы, перад Беларуссю паўстае пытанне абароны ўласнага рынку. На думку Пятра Садоўскага, нашаму парламенту трэба адкласці ўсе справы і сур'ёзна заняцца гэтай праблемай. Бо, пакуль паміж Літвой і Беларуссю існуе бязвізавая граніца, ёсць апасенні, што наша рэспубліка стане месцам збыту «драўляных» рублёў і пустых прылаўкаў.

П. Садоўскі і У. Сянько адказалі на шматлікія пытанні журналістаў.

**В. МЕНШЫКАВА, кар. БЕЛТА.**

## ЗНОЎ ПЯТЛЯ НА ГАЛОСНАСЦЬ?

Развал некалі «непарушнага саюза брацкіх рэспублік» прывёў да распаду і Саюза журналістаў СССР. У Рэспубліцы Беларусь у сродках масавай інфармацыі сёння працуюць 3,5 тысячы прадстаўнікоў гэтай творчай прафесіі. Амаль палавіна з іх стаяць на ўліку ў Мінскай гарадской арганізацыі. Нестабільнасць эканамічнага і палітычнага жыцця напрамую адбіваецца на рабоце многіх выданняў. Манапольнае павышэнне цэн сувязістамі, вытворцамі паперы паставіла большасць выданняў на мяжу банкруцтва. Палітычнае процістаянне закранула і рады журналістаў. Ці зможа ў гэтых умовах творчы саюз дапамагчы сваім членам, а пры неабходнасці — і абараніць іх? Аб гэтым і ішла размова на справаздачна-выбарнай канферэнцыі Мінскай гарадской арганізацыі Саюза журналістаў Беларусі.

Справы ў ёй далёка не бліскучыя. Нядаўна праўленне арганізацыі на працягу сутак выселілі з ранейшага кабінета ў Доме друку, размясціўшы там офіс акцыянернага таварыства. Што чакае ў далейшым гарадскую арганізацыю — сказаць цяжка. Многія з тых, хто выступіў на канферэнцыі, гаварылі аб неабходнасці пераўтварэння творчага саюза ў прафесіянальны. Дэлегаты прапанавалі стварыць творчыя асацыяцыі работнікаў рэдакцый радыё, тэлебачання, друкаваных органаў. Дэлегаты аднагалосна прагаласавалі за рэзалюцыю, у якой гаворыцца: «Удзельнікі XI справаздачна-выбарнай канферэнцыі Мінскай гарадской арганізацыі Саюза журналістаў Рэспублікі Беларусь пратэстуюць супраць мяркуемага аб'яднання Дзяржкамдруку, Дзяржтэлерадыё, БЕЛТА і Галоўліта, расцэньваючы гэта як чарговую пятлю на галоснасць, і звяртаюцца да Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча і Старшыні Савета Міністраў В. Кебіча з просьбай прыпыніць распрацоўку праекта аб'яднання».

На канферэнцыі выбрана новае праўленне сталічнай арганізацыі Саюза журналістаў.

(БЕЛТА).



## Пагроза застаецца

Як вядома, нядаўна на Украіне прынята рашэнне аб закрыцці Чарнобыльскай АЭС. Але пакуль што самая небяспечная ў свеце станцыя працягвае працаваць і... пагражаць. Аб пажары, які адбыўся на ёй 11 кастрычніка і вынікі якога вы бачыце на здымку, шырока паведамлялася ў сродках масавай інфармацыі.

Па просьбе рэдакцыі «Звязды» ўкраінскі журналіст Мікалай Лябах сустрэўся на Чарнобыльскай АЭС з экспертам па ліквідацыі вынікаў пажару доктарам тэхнічных навук, начальнікам упраўлення па сувязях з грамадскасцю Мінатамэнергапрома Я. Ігнаценкам і папрасіў адказаць на некалькі пытанняў.

**Інтэрв'ю па трывожнай прычыне «Я. Ігнаценка: «Сістэма працуе, як параненая птушка» чытайце на другой старонцы.**

## ФАКТ

### ТАНКІ — САВЕЦКІЯ, ГАСПАДАР — НЕВЯДОМЫ

У гамбургскім порце затрыманы незвычайны кантрабандны груз. Паліцыя знайшла тут 14 танкаў савецкай вытворчасці, якія былі запісаны ў мытных дэкларацыях як сельскагаспадарчыя машыны. Гамбургская пракуратура пачала пошук уладальнікаў танкаў. Ёсць меркаванне, што баявыя машыны належалі нацыянальнай народнай арміі ГДР.

### ШУКАЛА ДЗЯЎЧЫНУ

**У райцэнтры Бутурлінаўка Варонежскай вобласці на вяселлі адна са сваячак жаніха пабіла нявесту. Адбыўся гэты сумны выпадак, калі пасля першай шлюбнай ночы госця вырашыла даследаваць ложак, але тое, што шукала, так і не знайшла. Тады, прытрымліваючыся традыцыйных поглядаў на шлюб, яна пусціла ў ход кулакі, у выніку чаго нявеста апынулася ў цэнтральнай раённай бальніцы з падазрэннем разрыву селязёнкі. На шчасце, падазрэнне не пацвердзілася. Затое высветлілася іншая дэталь — на момант бойкі нявеста была цяжарнай ад мужа.**

### «РУКА ГРУЗІІ» Ў... ГЕРМАНІІ

Больш чым 12 мільёнаў фальшывых долараў вырабілі за два гады 69-гадовы грамадзянін Ізраіля, 52-гадовы гандляр з Германіі, а таксама 50-гадовы інжынер з Грузіі, які мае ізраільскае грамадзянства. Нядаўна тройца паўстала перад судом Франкфурта-на Майне. У час вобыску ў былога грузінскага інжынера было канфіскавана 2,5 мільёна фальшывых долараў, якія «майстры» не паспелі пусціць у абарачэнне.

### ТРАПІЎ У ЧУЖУЮ ЯМУ

**На месцы былых могілак, дзе знаходзіцца брацкая магіла будаўнікоў Магніткі, узводзіцца новы мікраараён горада Магнітагорска. Нядаўна гэта зямля прыняла яшчэ аднаго няшчаснага: нецвярозы грамадзянін позна ўвечары зваліўся ў канаву глыбінёй больш двух метраў і памёр ад траўм.**

### ЯЎРЭЙСКАЯ РЭСПУБЛІКА БЕЗ ЯЎРЭЯЎ

Сесія абласнога Савета ў Бірабіджане аб'явіла Яўрэйскую аўтаномную вобласць рэспублікай. Галасаванне прайшло аднадушна, хоць на пачатак года ў вобласці налічвалася толькі чатыры працэнты яўрэяў ад усяго насельніцтва. Ці ні ў тым прычына аднадушнасці мясцовай адміністрацыі, што ў праекце новай канстытуцыі РСФСР няма такой адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, як аўтаномная вобласць?

### РАСПРАНАЦЦА ТАКСАМА ТРЭБА ЎМЕЦЬ

**Балючую праблему прыгожа і модна апранацца омская фірма «Афрадзіта» вырашыла падмяніць магчымасцю прафесіянальна распранацца. Яна адкрыла ў Омску школу стрыптызу. Першыя ж дні існавання школы паказалі, што разлік быў правільны: ад жадаючых паступіць у новую навучальную ўстанову адбою няма. Першыя «практычныя» заняткі намечана правесці ў адным з камерцыйных рэстаранаў горада.**

### ВЕРУ — НЕ ВЕРУ

66 працэнтаў насельніцтва краіны заявілі ў ходзе апытання, праведзенага Усесаюзным цэнтрам вывучэння грамадскай думкі, што пачалі менш давяраць кіраўніцтву краіны ў апошнія месяцы. У 21 працэнта, наадварот, веры прыбавілася. Найбольш рэзкае падзенне даверу да ўрада прадэманстравала Сярэдняя Азія (74 працэнты супраць 66 працэнтаў у сярэднім па краіне). Нерасчараваных аказалася больш за ўсё ў Расіі — 24 працэнты супраць 21 працэнта ў сярэднім па краіне. Сёння поўнасцю давяраюць саюзнаму кіраўніцтву 37 працэнтаў насельніцтва. Не давяраюць — 47.

### І ТУТ ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

**Вучоныя з Брытанскага савета медыцынскіх даследаванняў прыйшлі да вываду, што штодзённае выкарыстанне малака ў 8 разоў зніжае небяспеку стаць ахвярай інфаркта міякарда. Але ж толькі ў мужчын.**

### НЕ ВЕР ВУШАМ СВАІМ...

**Вядучы расійскай інфармацыйнай праграмы «Вести» выдаў на днях чарговую сенсацыю. Па яго словах, «адзін з высокапастаўленых дзеячаў Беларусі ў Алма-Аце заявіў, што Мінск мае намер прадаць за мяжу па сусветных цэнах ядзерную начынку ад ракет». Хто зрабіў такую «заяву», Ю. Растоў не ўдакладняў, але сказаў, што гэта было зроблена ў неафіцыяльнай абстаноўцы.**

**Устрымаемся ад каментарыяў...**

## ФАКТ

ЧАС ПАДПІСАННЯ Ў ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ Ў 21.05.

